Цана асобнага нумару 20 грошау.

# СЫН БЕЛАРУСА

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 32. Вільня, Серада, 27-га жніўня 1924 г. Год I.

## Арганізованае наступленьне.

Не выклікае ніякага сумліву, што, каб правясьці ў жыцьцё „языковыя“ і „школьныя“ законы, дапускаючыя, хоць і ў вельмі абмежаванай меры, ўжываньне беларускае мовы ў урадаваньні і ў школе,— *патрэбны адпаведныя беларускія сілы.* Гэтыя сілы, ведама, можа даць *толькі само беларускае грамадзянства.* Дык здавалася-бы, што ўлада, калі мае запраўднае жаданьне зьдзейсьніць хаця-бы тое, што напісана ў гэных законах, павінна ўвайсьці ў зносіны з нашым грамадзянствам і выкарыстаць так патрэбныя сяньня для яе беларускія грамадзкія сілы.

На жаль, улада ў гэтым кірунку *не пайшла.* Наша адміністрацыя выразна паказуе, што яна зусім і не імкнецца да супрацоўніцтва з беларускім грамадзянствам, бо... „языковыя“ законы патрэбны толькі „на вываз“! Сьледам за заявай п. Ст. Грабскага на яго лекцыі ў Вільні, што польскім эндэкам *„няма падставы“ баяцца правядзеньня „языковых“ законаў у жыцьцё,*—мы бачым пляновы, арганізаваны паход проці беларускага грамадзянства, ведзены людзьмі, якія афіцыяльна абвяшчаюць, што яны—„прыхільнікі польскае ўлады“.

Ня будзем тут казаць аб новай хвалі арыштаў сярод беларусаў,—перад усім сярод беларускіх гімназістаў... Гэта—*беспасярэдняя* дзейнасьць нашае адміністрацыі. Адзначым нешта другое.

Вось-жа ў апошнія дні ў польскай прэсе разам пачалі зьяўляцца весткі, якія маюць выразную мэту: *апраўдаць ігнараваньне ўладай беларускага грамадзянства.* У апошнім нумары нашае часопісі мы перадрукавалі фантастычную „тэлеграму“ аб праектаваным „процідзяржаўным“ выступленьні беларускіх і украінскіх паслоў, — выступленьні, аб якім, аднак, ні самі паслы, ні нашае грамадзянства нічога ня ведаюць! У тым-жа часе горадзенская польская газэта „Nowe Życie“, выдаваная ксяндзамі-эндэкамі — Качыньскім і Савоневскім, друкуе ў перадавой стацьці з 17 жніўня сьмешны і дурны *данос* на Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні і некаторых нашых паслоў (Рака-Міхайлоўскага, кс. Ад. Станкевіча). А віленскі эндэцкі „Dziennik Wileński“ ня ўстыдаецца зьмяшчаць на сваіх страніцах брудны і сальны памфлет—з ананімнае аднадзёўкі „Абух“, абліваючы гразёй *усіх чынных беларускіх грамадзкіх працаўнікоў.* І ўсё гэта — ў працягу аднаго тыдня!

Але гэтага мала. Замест запраўдных беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, за якімі йдзе наш народ (—доказ гэтаму далі выбары ў Сойм і Сэнат!), польская прэса рэклямуе такія фальсыфікаты грамадзкіх установ, як адна з віленскіх шулерняў, нет ведама чаму трактуючы яе, як „палітычную“ арганізацыю. Сьледам за Вільняй ідзе Горадня: і там знайшоўся „спэцыяліст“, які, сфабрыкаваўшы подпісы некалькіх горадзенскіх дзеячоў, зьвярнуўся да міністэрства ўнутраных спраў з просьбай аб дапамогу быццам-то створанаму ім „Беларускаму Таварыству“—на *процібеларускую агітацыю* і выдаваньне адпаведнае газэты ў беларускай мове. А ўспомненая ўжо намі польская газэта „Nasze Życie“ горача рэклямуе гэнае фіктыўнае „Таварыства“....

Пастаўце побач усе гэтыя факты, і вывад атрымаецца сам сабой. Проці незалежнае беларускае думкі, проці ўсяго беларускага грамадзянства вядзецца пляновы, акуратна зарганізаваны паход, каб, абвесьціўшы ўсё нашае грамадзянства „неблаганадзёжным“, „падставіць“ розных авантурнікаў-крыміналістаў, якія запраўды будуць кампрамітаваць беларускае імя, — а тады можна будзе сказаць: „Для беларусаў нічога нельга зрабіць, бо... у іх няма з кім працаваць!“

Уся справа белымі ніткамі шыта, і сьляды „работы“ яўна відаць!

## Фантастычны данос.

Данос заўсёды мае ў сабе для людзей маральна чыстых нешта агіднае. І не дарма нават тая ўлада, якая карыстаецца услугамі шпікоў і даношчыкаў, глядзіць на іх з глыбокай пагардай: агульна-вядомы факт, што Напалеон I, калі адзін з вельмі заслужоных шпікоў папрасіў у яго ў награду ордэр Пачэснага Легіёну, адказаў яму: „Гэты ордэр я маю толькі для маіх жаўнераў!“.

Але асабліва агідным зьяўляецца рамясло *лжэ-даношчыкаў,*—тых, якія дзеля тае ці іншае мэты робяць *фальшывыя даносы.* А верх агіды прадстаўляе такі лжэ-даношчык—ксёндз.

Мы якраз маем перад сабой такі фальшывы данос на беларускія грамадзкія арганізацыі і нашых паслоў, сфабрыкаваны і надрукаваны на першым месцы ў горадзенскай польскай газэце „Nowe Życie“, пад якой чытаем подпісы: Wydawca *ks. posel Z. Kaczyński,* Redaktor—*ks. L. Sawoniewski.* Вось дасло̆ўны зьмест даносу „велебных айцоў“:

„Беларускім рухам кіруе Беларускі Цантральны Нацыянальны Камітэт у Вільні, які склікае правінцыяльныя зьезды з учасьцем беларускіх дзеячоў з розных мяйсцовасьцяў. Гэткі зьезд адбыўся ў пачатку ліпня (—гдзе?—*Рэд.*). Галоўным дакладчыкам быў пасол Рак-Міхайлоўскі. Прыехала каля 20 з нечым дэлегатаў: Андрэй Піньчук (Вільня), Андрэй Шурпа — брат вядомага б. актывіста (прыбыў з Ковенскай Літвы), Васіль Банькоўскі і Верабей (Горадня), Аградоўчык (Беласток), Бэрскі (Араны), Шак Кошка (Скідэль), Зофія Крышталовічанка (Варшава), Язэп Пракопій Маліноўскі і іншыя. Пасол Рак-Міхайлоўскі заявіў, што беларуская праца ўзмацоўваецца і абхоплівае месты, мястэчкі і вёскі. Беларусы спадзяюцца, што ў хуткім часе здолеюць зрабіць удар Польскай дзяржаве і паказаць сьвету, шта жывуць і патрапяць змагацца за волю. Цантральны Камітэт у найбліжэйшым часе маніцца распачаць сільную агітацыю пры помачы легальнае і нелегальнае літэратуры.

„У Бальшэвіі вядома „Чэка“, у нас здабывае славу беларускае „Цэка“, (Цантральны Камітэт), бо, як мы даведываемся, імкнецца да надзяленьня сваіх сяброў стрэльбай, выбуховымі матар'яламі. Ёсьць пэўныя дапушчэньні, што беларусы імкнуцца да арганізацыі баёвак і дывэрсыйных атрадаў, што паразумеваюцца з Ковенскай Літвой, ці з літоўскімі арганізацыямі ў справе атрыманьня грошы на агітацыйныя мэты і барацьбу з праціўнікамі. Ц. К. заклікае да скупляньня медзі, волава і іншых мэталяў (!!!) да зьбіраньня грошы пад рознымі відамі.

„Беларусы з Польшчы паразумеваюцца з галоўным беларускім (?!) дзеячом у Літве, папом Іванам Корчынскім з Горадні, які ўцёк у Літву ў 1922 годзе. Корчынскі прысылае сваіх кур'ераў у Вільню, якія паразумеваюцца з тутэйшымі дзеячамі і прывозяць ім грошы. Сярод беларускіх дзеячоў выдзяляецца пасол кс. Адам Станкевіч, называны беларусамі папулярна „Адамка“. Кс. Станкевіч у барацьбе з палякамі йдзе поплеч з праваслаўнымі, ня гледзячы на тое, што зьяўляецца каталіцкім сьвяшчэнікам. Робіць часта на шкоду Касьцёлу. Імкнецца да ўзмацненьня агітацыі на вёсках. Беларусы вялікія надзеі ўскладаюць на курсы беларускае мовы, якія маняцца хутка адкрываць“.

Зацікаўленая гэтым даносам *пасла* кс. Качынскага на ягоных соймавых *калегаў* — паслоў Рака-Міхайлоўскага і кс. Станкевіча, мы праверылі ўсе „даныя“ даносу і „факты“, зьмешчаныя ў ім, і ўстанавілі, што: 1) ніякага зьезду з учасьцем пасла Рака-Міхайлоўскага і пералічаных асоб ані ў паказаным часе, ані наагул *ня было*; 2) ніводная з асоб, названых у даносе, Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ў Вільні ані паслом *невядома*; 3) што „*Цантральны*“ Нацыянальны Камітэт у Вільні *ня істнуе*, а істнуе проста Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, які, апрача прадстаўніцтва арганізованага беларускага грамадзянства і выяўленьня апініі яго, іншых функцыяў не выпаўняе; 4) што *ўвесь гэты данос ад пачатку да канца выдуманы „велебнымі айцамі“*.

Ведама, само сабой узьнімаецца пытаньне: дзеля якой мэты „паважаныя духоўныя айцы“ наважыліся на гэткае маральнае злачынства, як *фальшывы данос*? Адказ знаходзім у канцы гэтага самага даносу, які заклікае ўладу *лавіць „беларускую крамолу“*, бо—рух беларускі шырокай хваляй разьліваецца нават і па Горадзеншчыне, якая найбольш заціснута і стэрорызована спаміж зямель Заходняе Беларусі.

Але аўтары даносу, пішучы яго, мусіць не падумалі, што сваім заклікам стаўляюць сваю-ж польскую ўладу ў дужа нялоўкае палажэньне: *лавіць тое, чаго няма,—немагчыма*, як ня мог у Вялейшчыне улавіць „бандытаў“ вядомы паліцэйскі „асьпірант“ Котарбіньскі, які... сам з сваімі таварышамі па службе рабаваў і забіваў людзей...

**Ів. Мялешка.**

## Вынікі лёнданскае канфэрэнцыі.

Парыжская часопісь „Eclair“ гэтак прадстаўляе „балянс“ лёнданскае канфэрэнцыі, стаўляючы побач вынікі яе для Нямеччыны і для Францыі:

| | **Нямеччына:** | **Францыя:** |
|---|---|---|
| *Зыск:* | 800 міліёнаў залатых марак; чыгункі Руры і Прырэйнскае краіны; гаспадарчае аб'яднаньне Нямеччыны і скасаваньне мытных граніц; паварот выдаленых урадоўцаў; абарона ад нарушэньняў гэтага; скасаваньне санкцыяў ( — зьняцьце акупацыі — *Р.*). | Нічога! |
| *Страты:* | Нічога! | Памяншэньне адшкадаваньняў на 60%; утрата перавагі ў камісіі адшкадаваньняў; немагчымасьць атрыманьня сплат з прычыны злой волі Нямеччыны; зрачэньне важных палітычных і гаспадарчых заставаў; утрата адміністрацыйнага кантролю на левым беразе Рэйну. |
| *Спадзяваньні:* | Прыняцьце ў Лігу Народаў, як роўнапраўнае дзяржавы; поўная фінансавая адбудова; карысьці для прамысловасьці пры новым уваходзе яе на сусьветны рынак; абмежаваньне правоў рэйнскае камісіі; магчымасьць падгатоўкі новае вайны. | Нямецка-француская гаспадарчая ўмова, дэтальныя пастановы якое яшчэ невядомы, але якая ў кожным разе будзе для Нямеччыцы роўна карысная, як для Францыі; канфэрэнцыя ў справе міжысаюзьніцкіх даўгоў з невядомым вынікам; нявыразныя абяцанкі ў справе праблемы бясьпечнасьці ў пастаці агульнага разаружэньня і ўзаемных гарантыйных умоваў пад апекай Лігі Народаў. |

Француская газэта забылася сказаць толькі аб адным: аб тым, што ў працягу ўсяе ваеннае акупацыі Руры і Рэйнскае краіны Францыя не магла ў Нямеччыны сілай нічога ўзяць, а цяпер нямецкія залатыя маркі, здабываныя надмернай працай нямецкіх работнікаў, самі паплывуць у францускія кішані...

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Паважаная Рэдакцыя!

Прашу надрукаваць гэтыя радкі ў справе нябывалага яшчэ ў беларускай прэсе ілжыва-бруднага выпаду ананімнае аднаднёўкі пад назовам „Абух“ на мяне і на цэлы рад паважаных маіх таварышоў па працы.

На гэную паскудную зьвягу я не адказываю і не цягну вінавайцаў пад суд, бо — гэта толькі рукі, якія робяць заказаную ім некім „вышэйшым“ за іх работу. Да галавы-ж, на жаль, я дабрацца не магу....

Судовая практыка звычайна шукае вінавайцаў злачынства сярод тых, каму гэнае злачынства магло даць нейкую карысьць. Вось-жа лёгка дагадацца, хто маральны вінавайца бруднага выпаду: **каму некарысна** палітычная работа зарганізаванага беларускага грамадзянства і **карысна** абліваць за гэту работу гразёю мяне, нашых паслоў і ўсіх запраўдных барацьбітаў за волю і правы беларускага народу.

Перадрук усіх брудаў і порнаграфіі з „Абуха“ п. Обстам у польскай эндэцкай газэце „Dziennik Wileński“ толькі аблягчае выкрыцьце **галавы**, якая кіравала і кіруе бандай крыміналістаў і правакатараў у барацьбе гэнае банды з беларускім грамадзянствам. **Ант. Луцкевіч.**

Вільня, *24. VIII. 24.*

## Весткі з вёскі.

**Адбудоўваюць.**

(*Карэспандэнцыя з Наваградчыны*).

У 1920 годзе вёску Даўгінава дачыста спаліла польскае войска. Пачакаўшы надарэмна 3 гады на ўрадавую дапамогу дзеля адбудовы зьнішчаных будынкаў, жыхары пачалі збываць апошнюю скаціну і збожжа і купляць лясны матар'ял. Многа сялян засталіся зусім бяз хлеба і вопраткі, але здабылі матар'ялу і пабудавалі як-небудзь хаты. Вось жа тады апомнілася польская паліцыя, што трэба дапамагаць. Адзін раз уяжджаець у вёску паліцыянт і, угледзіўшы новы зруб хаты, запытаў у селяніна: „Czyj to dom?“ Калі селянін сказаў, што Зьмітрука Мацука, дык паліцыянт загадаў паклікаць Мацука да яго. Падыйшоўшы ўласьнік хаты запытаў, дзеля чаго яго паклікалі. Тады паліцыянт патрэбаваў ад Мацука **пляну і пазваленьня на будоўлю хаты**, а як у апошняга плану не знайшлося, то паліцыянт зажадаў ад яго 50.000.000 марак польскіх. Абураны гэткаю „дапамогаю“ Мацук сказаў: „каб я меў 50 мільёнаў марак, дык я бы ўжо жыў у сваей хаце“. Урэшце **паліцыянт забараніў яму канчаць хату!**

То мусі-быць гэта ўжо настала тая дапамога, якой мы ад 1920 году чакаем?! **Калінаўскі.**

**М. Будслаў,** Дунілавіцкага павету.

Увесь час у нашым мястэчку неяк было ціха і, калі прыходзілася чытаць у газэце пра ўсялякія няпрыемныя здарэньні ў другіх мясцовасьцях, неяк аж брала ўцеха, што жывеш у такім спакойным мейсцы. Але вот дзеля спакойнасьці прыслалі трохі паліцыянтаў. Цяпер у нашым мястэчку ёсьцяка іх мусі быць чалавек каля 30, і як толькі наступіць вечар, па вуліцах з вінтоўкамі ходзяць міліцыянты, і ўжо ніводзін чалавек ня пройдзе, каб ня быў імі заўважаны. Дзеля гэтага ўсе жыхары сьпяць спакойна, памятаючы, што ёсьцяка варта і ніхто іх не абудзіць. Здавалася-бы, што пры такіх парадках не павінна быць і ніякага зладзейства, а калі каму-бы рукі і засьвярбелі, дык ён павінен быў-бы быць злоўлены.

Выходзіць жа зусім наадварот. Так, у аднаго селяніна В. Бабкевіча нядаўна было ўкрадзена сала. Зладзея, вядома, ніхто ня відзеў і не злавіў, а толькі на другі дзень патрэсьлі манаткі ў некатарых суседзяў...

А вот у нядзелю 17/VIII дык было яшчэ такое здарэньне. Двум паліцыянтам захацелася паплаваць у лодцы з дзьвюма мястачковымі дзяўчатамі. Але хоць і пагода была дужа ціхая, і рэчка наша Сэрвач гэтак сама дужа спакойная, ды мусіць у нашых маракоў у галовах дужа крупілася, бо, ад'ехаўшы ад берагу, набралі ў лодку вады і пад сабой яе згубілі, а самі ўсе начапляліся за палі, бо гэта рабілася каля мосту. Увідзеўшы гэта, мельнік Альперовіч і адзін з тутэйшых хлопцаў Вінцук Хацяновіч злавілі лодку і падаставалі ўсіх. Апынуўшыся ўжо на беразі, адзін з паліцыянтаў, заместа падзякі, што яго дасталі, накінуўся на В. Хацяновіча і стаў яго лаяць, а пасьля і ўдарыў яго некалькі разоў. Вот табе і падзяка за тое, што выцягнуў з вады! Гэта ўсё роўна, як у байцы Крылова „Мужык і мядзьведзь“, што, калі батрак абараніў яго, дык пан яго яшчэ стаў лаяць, што папсаваў усю скуру на мядзьведзю! **Бярозка.**

### Жальба курца.

(*З прычыны забароны разводзіць тытун на сваю патрэбу*).

Ах, што буду я курыць,
Калі тытун увесь пасеклі!
Ах, на што мне гэтак жыць,
Лепш кіпець у пеклі...
Многа працы палажыў—
Раньняю вясною,
Пакуль тытун я пасадзіў,
Хадзіў я з нудою.
Трэба было мне знайсьці
Сьвежанькай расадкі
I ўзяць рыдлёўку, ды пайсьці
I зрабіць дзьве градкі.
Пасадзіць тую расадку,
I кожны вечар паліваць.
А калі-б стала ўсё ў парадку,
трэ было-б пашынкаваць.
Добра мой тытун узяўся,
Як бы чуў сваю нядолю.
Аж у пояс мне дабраўся,
Пакуль ня згінуў з галавою...
I цяперачкі сядзеў-бы,
Каб я ўладу над ім меў!
Ня купляў-бы, свой курыў-бы,
Каб жандар мне ня зглуміў...
Выняў шашку душагубку,
Падняў вышэй галавы....
I зложыў увесь у кучку,
Аж мне сьлёзы пацяклі!
Потым ён-жа навязаўся,
Каб я к солтысу ішоў
I ў прataколе расьпісаўся,
Што тытун ў мяне знайшоў.
Я маліўся, я прасіўся,
Каб пратаколу ня пісаў.
Ён за гэта чуць ня біўся,
Бо... нічога я ня даў....
Каб прышоў ён зразу ў хату,
Тытуну ня секшы,
Я паставіў-бы паўкварту
I сам быў-бы лепшы!

**Крыцкі С.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

### З МЕНШЧЫНЫ.

**Народныя школы ў Менскім пав.** Школьная сетка па Менскаму павету абхоплівае 223 школы, якія падзяляюцца на 4 поўныя сямёхгодкі (у м. м. Заслаўлі, Самхвалавічах, Узьдзе, і Койданаве), 11 няпоўных сямёхгодак і 185 школ аднакамплектных (з адным настаўнікам).

Школьных працаўнікоў у іх—385; тэхнічнага пэрсаналу—230, прычым апошні ў вясковых школах лічыцца на сталай пасадзе (атрымлівае аплату цэлы год) толькі ў тых школах, якія маюць уласны будынак. Тэхнічны пэрсанал школ з нанятымі будынкамі лічыцца на пасадзе і атрымлівае аплату толькі за вучэбны час (за 6-ць месяцаў).

Па мове выкладаньня школы дзеляцца гэтак: беларускіх 214, пры 12774 вучн., польскіх—5 (вучняў усіх — 250); жыдоўскіх школ — 4, вучняў у іх 135.

Матар'яльна-гаспадарчы стан школ: 50 проц. школ за'ясьпечаны ўласнымі будынкамі, 50 проц. зьмяшчаюцца ў нанятых сялянскіх хатах. Уласныя школьныя будынкі паступова рамантуюцца і прыводзяцца ў належны выгляд. Што датычыцца абстаноўкі школ мэблямі і патрэбнымі вучэбнымі падручнікамі, то яна пакуль вельмі слабая.

Аплата працы школьных працаўнікоў магла-б лічыцца і здавальняючай, каб выплачывалася сваечасова. Школьны працаўнік атрымлівае за камплект 24 р. 50 к.

### З ВІЦЕБШЧЫНЫ.

**Віцебскія вучыцялі аб беларусізацыі школ.** Нядаўна ў м. Чашніках, Віцебскага павету, адбылася раённая канфэрэнцыя настаўнікаў былых чатырох валасьцёў: Капцэвіцкай, Смалянецкай, Цапінскай і Гарадчэвіцкай, якія аб'ядналіся ў адзін раён з цэнтрам у м. Чашніках.

На гэтай канфэрэнцыі быў зроблен даклад школьным інспэктарам Бабруйскага вокругу, с. Івашыным, на тэму: „Культурна-нацыянальнае адраджэньне беларусаў і беларусізацыя школ і іншых савецкіх установ“.

Даклад быў зроблены па беларуску і вельмі зацікавіў настаўніцтва.

Па дакладу с. Івашына была ўхвалена наступная рэзалюцыя:

„Выслухаўшы даклад с. Івашына аб культурна-нацыянальным адраджэньні беларусаў і аб беларусізацыі школ і іншых савецкіх установ, мы, працаўнікі асьветы Чашніцкага раёну, знаходзім, што для больш усьпешнага і бязбольнага правядзеньня ў жыцьцё беларусізацыі школ неабходна зрабіць наступныя крокі:

1) арганізаваць беларускія гурткі для паступовага вывучэньня настаўнікамі беларускай мовы, гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі і географіі Беларусі (у першую чаргу — ў м. Чашніках, а далей і ў іншых пунктах раёну);

2) растлумачываць вучням і грамадзянам пляцформу камуністычнай партыі па нацыянальнаму пытаньню;

3) выпісываць у кожную школу газэту „Савецкая Беларусь“ і некалькі эгзэмпляраў на раён белар. марксысцкага журналу „Полымя“;

4) гутарыць між сабою, а таксама і з вучнямі па беларуску;

5) у правядзеньні культ'асьветнай працы сярод грамадзян паступова перахадзіць на беларускую мову;

6) прасіць Камісарыят Асьветы Беларусі ў бліжэйшым часе прыслаць больш літаратуры ў белар. мове і беларускіх слоўнікаў і назначыць з наступнага вуч. году ў Чашніцкую школу 2 ст. настаўніка для выкладаньня беларусазнаўства.

## З Чэхаславакіі.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

Дня не праходзе, каб чэшская прэса так, ці іначай не зачапляла беларускае пытаньне. У гэты мамэнт зварачаецца ўвага на тое, што ўсе сілы Польскага Тэлеграфнага Агенцтва кіруюцца да таго, каб даказаць Эўропе, быццам у Заходняй Беларусі ўжо істнуе паўстаньне! Гэта патрэбна дзеля таго, каб даказаць патрэбу ўвядзеньня ваеннага стану на Беларусі. Але Эўропа ўжо добра разумее палажэньне, — таксама, як разумее яго і чэшская прэса.

„Narodni Listy“ з 22.VIII.24. у № 232 у перадавым артыкуле „Polské chyby“ кажа проста: „Нешчасьлівы польскі мір, падпісаны ў Рызе з радавою ўладай, ня прынёс дагэтуль абноўленай Польшчы ніякага успакаеньня. Толькі вельмі значна пашырыў дзяржаўныя межы на Усход, але затое ўвёў у склад дзяржавы мільёны няпольскіх грамадзян, якія ў Польшчы прадстаўляюць проста элемэнт непажаданы“. А далей чэшская газэта прыводзе выемкі з прамовы сэнатара Багдановіча аб уціску праваслаўнае царквы ў Польшчы і дае статыстыку з вядомае брашуры п. Сроковскага. Артыкул заканчываецца славамі: „Мы ня хочам быць адвакатамі праваславія ў Польшчы. Нашае чэскае русафільства зьяўляецца галоўнай прычынай,—фактычна варункам, — чаму пераважаючая большасьць польскіх газэт ня толькі нездаволена Чэхаславакіяй, але нават абвяшчае яе сваім ворагам.—Дзеля гэтага лічым нашай чэшскай, як і славянскай, павіннасьцяй, у імя добрасуседзкіх узаемаадносінаў, сказаць адкрыта, што такімі мэтадамі ў нацыянальных і рэлігійных пытаньнях Польская дзяржава ня прыдбае ніводнага прыяцеля, ані патрэбнае пашаны, як дома, так і на чужыне“.

„Narodni Politika“ з 22. VIII. 24. ў № 232 ў артыкуле „Варшава—Масква“ пералічае ўсе грахі Польшчы і—як вынік іх — бандыцкія напады, бо чы-ж можа быць здаволена насяленьне пры варунках, калі беларуская часопісь „Сын Беларуса“ сьвяткуе выданьне 25 нумару,—і прыводзе словы нашае газэты, дзе гаворыцца, што рэдактар ні разу ня быў засуджаны за тое, што яму інкрымінавала адміністрацыя. „Ці-ж гэта жыцьцё,—кажа чэшская газэта, калі рэдактар ня ведае ні дня, ні гадзіны, калі будзе зачынена яго газэта?!

**Папрыка.**

Прага, 22. VIII. 24.

## Пісьмы з Сэрбіі.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

На чужой старане заўсёды нудна жывецца... ды дзе цяпер весела! Але зусім цяжка і нудна, калі яшчэ здарыцца якая-небудзь няўдача, або пачуем нешта зусім дрэннае.

Сяньня я атрымаў ліст з Францыі ад аднаго майго знаёмага. Піша ён ня зусім добрыя рэчы.

Усім чыста ведама, што цяпер па ўсім сьвеце блукаюцца і беларусы, расейцы, палякі і жыды... Колькі іх, што і куды іх гоніць, — не заўсёды знойдзешь адказ, але ўсе чыста шукаюць лепшага мейсца і лепшае долі.

Неяк вясной у Сэрбіі значная частка эмігрантаў пачала хварэць цягаю ў Францыю. Мэрам там лепш, чым у Сэрбіі, і грошы больш плацяць, і адносіны іншыя, і францускае мовы можна навучыцца. У Белградзе нават адчынілася бюро „Технопомошч“, якое мела мэту памагчы таму, хто хацеў ехаць у Францыю. За харчы, за дарогу і за візы нават уперад грошы давалі, гэтак цягнула людзей на новае мейсца.

I некаторыя паехалі і ўжо пад небам Францыі пашкадавалі, што зрабілі гэты крок. Французы аказаліся французамі: ані добрае платы ня далі, ані не зьмянілі сваіх адносін да чалавека-гаруна чужое нацыянальнасьці.

Дык вось, што піша мне знаёмы з Францыі:

На эмігрантаў у Францыі глядзяць бадай што, як на рабоў, і надта ня любяць, калі хто-небудзь з гэтых „рабоў“ ведае францускую мову. Кожны павінен падпісаць кантракт ці ўмову і да вызначанага часу жыве ў лагеры бяз права выхаду. Плата значна меншая, чым нават можна было спадзявацца.

Ведама, ёсьць і такія, каму пашанцавала дастаць добрую працу, але гэтых каханкаў удачы можна на пальцах пералічыць.

Праўда, усюды нясмачна жывецца бязбацькаўшчынцу: і ў Сэрбіі ня кожны мае добры кавалак хлеба, але ў Сэрбіі яшчэ ня ходзяць эмігранты з абвесткай на грудзях: „шукаю працы“... А ў Францыі, піша мне знаёмы, гэта не навіна.

Зусім, як з старадаўнае гісторыі...

Даўней чалавек чалавека вадзіў па рынку і назначаў яму цану, а цяпер сам чалавек пайшоў на гэты рынак і прадае з гэтага рынку сваю змогу, волю і хараство свайго „я“...

Нудна... бярэ за сэрца...

I цяжка, што гдзесьці на чужыне заніштo прападае маладая сіла, гэтак патрэбная і вельмі карысная для кожнага працоўнага народу!

Шмат чаго піша няўцешнага мой знаёмы, але аб гэтым неяк другім разам.

**М. Запольскі.**

[illegible] Н. Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.